ВІНШУЕМ!

# Словам шчырасці і дабра

*Да юбілею пісьменніка Уладзіміра Ліпскага*



6 мая 2015 года пісьменнік Уладзімір Ліпскі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, член Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, адзначае свой юбілей – 75-годдзе. Усё свядомае жыццё ён прысвяціў дзецям: 37 гадоў узначальвае часопіс "Вясёлка", а год таму стварыў для дашкольнікаў часопіс – чытанку-маляванку "Буся". Гэтыя выданні 15-тысячным тыражом прыходзяць у кожны раён, іх выпісваюць сем'ямі, чытаюць у бібліятэках.

Уладзімір Ліпскі вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Яго мастацка-дакументальныя аповесці, эсэ, нарысы і апавяданні, кнігі для дзяцей перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую, нямецкую мовы. Творчасць гэтага мастака слова ўключана ў вучэбныя праграмы школ, педагагічных вучылішчаў і каледжаў, вывучаецца на філалагічных факультэтах ВНУ педагагічнага профілю. Як старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў ён клапоціцца пра лёс дзяцей-сірот, чарнобыльцаў: яго кнігі "Падкідыш", "Бацькі і дзеці", "Мама. Малітва сына", "Бацька. Лісты на неба" ўздымаюць глыбокія пытанні сямейнага выхавання, духоўнасці, вучаць уважліва і чула ставіцца да маленькіх сэрцаў, што прагнуць дабрыні і спагады. Нездарма пісьменнік Анатоль Кудравец пра кнігу Уладзіміра Ліпскага "Мама. Малітва сына" напісаў, што "адкрытасць, шчырасць пераводзяць кнігу-споведзь з абсягаў вельмі асабістых у абсягі грамадска значныя, грамадска неабходныя". "Яна вяртае нас у вечнае – туды, дзе праўда, чысціня, радасць", – упэўнена і народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

Такія кнігі юбіляра, як "Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод", "Янкаў вянок" (дзецям пра Янку Купалу), "Жыві сёння", "Сонца над галавой", "Вясёлка над Нёманам", "Я тут жыву", выводзяць аўтара на абсяг лепшых узораў сучаснай беларускай літаратуры.

Уладзімір Ліпскі – выдатны пісьменнік-дакументаліст. "Біяграфічны жанр ён засвойваў, працуючы над кнігамі "Крутыя вёрсты" (пра Героя Савецкага Саюза Зінаіду Тусналобаву-Марчанка), "Урокі Купрэвіча" (пра славутага беларускага акадэміка), "Невядомы" (пра Ігната Грынявіцкага), "Мужык" (пра Аляксея Скакуна)", – адзначыў у сваёй рэцэнзіі пісьменнік, дырэктар выдавецкага дома "Звязда" Алесь Карлюкевіч.

Шмат казак напісаў Уладзімір Ліпскі для дзяцей вясёлкаўскага ўзросту. У жанрах казак, аповесцяў, апавяданняў выйшлі яго папулярныя кнігі "Каралева белых прынцэс", "Прыгоды Нуліка", "Наша Маша", "Вясёлая азбука", "Антонік-Понік", "Гостинец" (выдавецтва "Детская литература"), "Золотой домик" (на рускай мове, выдавецтва "Мастацкая літаратура").

Пра Уладзіміра Ліпскага, яго стаўленне да дзяцей і дзіцячай літаратуры вельмі вобразна напісаў некалі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін:

*Скачыце, зайчыкі і ліскі,*
*З настроем будзьце,*
*таты, мамы.*
*Няхай жыве Уладзімір Ліпскі –*
*Сярод дзяцей дарослы самы!*

Уладзімір Ліпскі імкнецца сваёй творчасцю і грамадскай дзейнасцю сцвярджаць Дабро, вучыць любіць сваю Радзіму і кожнага чалавека ў ёй, адчуваць радасць ад жыцця і літаратуры. Відаць, таму ён і стаў заснавальнікам найбуйнейшага ў Беларусі свята народнага гумару ў Аўцюках. Народны артыст Беларусі Генадзь Аўсяннікаў адзначыў: "Можна з радасцю засведчыць, што на Палессі нарадзілася новая, адмысловая традыцыя".

Кандыдат філалагічных навук, літаратуразнавец Маргарыта Яфімава склала кнігу "Уладзімір Ліпскі: Не выжываю, а жыву!". У кнігу ўвайшлі шматлікія рэцэнзіі пра творчасць і грамадскую дзейнасць Уладзіміра Ліпскага. Супрацоўнік навукова-метадычнай установы "Нацыянальны інстытут адукацыі" Ірына Бутарына напісала пра пісьменніка кнігу "Свой у краіне дзяцінства". А Гомельскае тэлебачанне ў серыі "Постаці" стварыла фільм пра свайго знакамітага земляка. Па вызначэнні Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Ліпскі ўключаны ў раздзеле "Персаналіі" ў лік пісьменнікаў, творчасць якіх і складае гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя.

Вядомы беларускі мастак, аўтар славутага цыкла "Мадонны" Аляксей Кузьміч пісаў: "Талент Уладзіміра Ліпскага шматгранны. Яго сонечнай энергіі хапае на ўсё. Скажу больш: ягонае жыццё напоўнена залатым і радасным святлом. Уладзімір Ліпскі тонка разумее прыгажосць, адчувае гармонію і бязмежна любіць жыццё. Няхай жа і далей яго талент адухаўляе людзей, увесь свет".

Сапраўды, няхай гэта будзе пажаданнем юбіляру – выдатнаму пісьменніку, галоўнаму рэдактару папулярных часопісаў для дзяцей "Вясёлка" і "Буся" Уладзіміру Сцяпанавічу Ліпскаму. Няхай яго слова шчырасці і дабра жыве ў сэрцах дзяцей і дарослых!

Ад імя рэдкалегіі і рэдакцыі часопісаў "Вясёлка" і "Буся" –

**Маргарыта ПРОХАР, Раіса БАРАВІКОВА.**

Свае публікацыі, віншаванні, пажаданні, пытанні на адрас юбіляра дасылайце па адрасе:
**220073 Мінск, вул. Кальварыйская, 25, "Вясёлка".**
Тэл. **200-92-61, 200-91-90, 200-81-92, 204-62-83.**
Сайт "Вясёлкі": **www.veselka.by**
E-mail: **vyaselka2011@yandex.by**
Асабісты сайт пісьменніка: **www.lipskivs.by**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Як здароўе Аляксандра Куллінковіча?

***Пару тыдняў таму чытала, што лідара гурта "Нейра Дзюбель" Аляксандра Куллінковіча на адным з канцэртаў у мінскім клубе палічылі за п'янага. Ён забываў словы песень, падаў, сыходзіў са сцэны. Хаця, як потым высветлілася, не зусім адэкватныя паводзіны музыканта былі звязаны не з перадазіроўкай алкаголю, а з мікраінсультам. Як зараз яго самаадчуванне?***
**Ірына БОЙКА, г.Баранавічы.**

– Я адчуў, што мне дрэнна яшчэ да выхаду на сцэну, але не мог зразумець, што са мной, – *узгадвае Аляксандр Куллінковіч*. – Пасля візіту да ўрачоў усё стала на свае месцы. Цяпер са здароўем усё ў парадку – хутка аднавіўся. Жывы-здаровы, група працуе, канцэрты не адмяняем, а іншых падрабязнасцяў не трэба. Пасля таго, як напісалі пра тое, што здарылася, у мяне проста разрываўся тэлефон! Дзякуй, канешне, усім, хто непакоіўся і перажываў. Усё добра. І да сустрэчы на канцэртах!

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

*Алесь ПАШКЕВІЧ:*

# «Мы маглі б атрымаць Смаленск, але з тым жа поспехам страціць Брэст»



*Каго з дзеячаў БНР можна назваць "беларускім Чапаевым"?*
*Чаму беларускія дыпламаты ледзь не аддалі Брэст Украіне?*
*Які след у гісторыі БНР пакінулі масоны?*
*На гэтыя і шэраг іншых пытанняў, пра якія не пішуць у падручніках, адказвае гісторык Алесь Пашкевіч. Ён выступіў выдаўцом кнігі Дароты Міхалюк "Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг.", якая перакладзена з польскай на беларускую мову.*

**– Спадар Алесь, чаму мы з вамі жывём у Рэспубліцы Беларусь, а не ў Беларускай Народнай Рэспубліцы?**

– Беларускі нацыянальны рух пачаў сур'ёзна развівацца толькі на пачатку XX стагоддзя. Таму свядомасць большасці беларусаў моцна адставала ад суседніх народаў: літоўцаў, палякаў, украінцаў. Грамадства было несфарміраваным, а беларускія палітыкі аказаліся не гатовыя да будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Не хапала ні вопыту, ні кадраў. Вось толькі адзін прыклад. У тыя часы мелася толькі адна крыніца, у якой былі праведзены межы краіны. Гэта карта, якую склаў Яўхім Карскі (дадатак да яго фундаментальнай працы "Беларусы"). Згодна з ёй Вільня, Смаленск і Беласток былі беларускімі, а Брэст і заходняе Палессе – украінскімі. Прычына ў тым, што Карскі быў лінгвіст. Перадусім, ён браў пад увагу моўныя крытэрыі. Дыялекты на заходнім Палессі маюць як украінскія, так і беларускія рысы. Карскі лічыў, што ўкраінскіх было больш. На перамовы з украінскай дэлегацыяй беларусы прыехалі менавіта з картай Карскага.

**– Уяўляю, як узрадаваліся ўкраінцы!**

– У якасці кансультанта на перамовах прысутнічаў прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Яму давялося тэрмінова ўдакладняць гэту карту і даказваць, чаму заходняе Палессе павінна знаходзіцца ў складзе Беларусі.

**– Смаленск, Вільня і Беласток у складзе Беларусі – мара любога нацыяналіста. Гэта было рэальна?**

– Да Першай сусветнай вайны Беларусь, Украіна, Польшча і Літва існавалі ў складзе Расійскай і іншых імперый і не мелі выразна акрэсленых межаў. Кожны з суседніх народаў меў на пэўныя землі свае прэтэнзіі, якія перасякаліся паміж сабой. Ніхто не збіраўся адмаўляцца ад іх і імкнуўся пацвердзіць свае аргументы зброяй. Большасць спрэчных тэрыторый былі этнічна неаднародныя (на той жа Беласточчыне жылі як беларусы, так і палякі). Патэнцыяльна мы маглі б атрымаць Смаленск, але з тым жа поспехам маглі страціць Брэст.

Наогул цяжка прыгадаць хоць бы адну кантынентальную дзяржаву, якая здолела б уключыць у свой склад усе тэрыторыі, на якія некалі прэтэндавала. Для гэтага яе жыхары павінны ці жыць недзе на астравах, ці быць адмежаваны ад іншых нейкімі натуральнымі межамі – напрыклад, горным хрыбтом. Таму пытанне трэба задаваць па-іншаму: ці маглі мы тады атрымаць увогуле хоць нейкую тэрыторыю? Асабліва калі ўлічваць, што БНР фактычна ніколі не кантралявала нават тыя землі, што сёння ўваходзяць у склад Беларусі.

**– А чаму Беларусі не дапамог Захад? Стварылі ж заходнія дзяржавы незалежную Польшчу.**

– Не зусім правільна казаць, што незалежную Польшчу ў 1918 г. стварылі менавіта заходнія дзяржавы. Перадусім яе адваявалі самі палякі, здолеўшы стварыць цалкам баяздольнае войска. Праўда, палякі мелі ўплывовую эміграцыю, якая ўвесь час нагадвала свету пра цяжкі лёс сваёй краіны. У той жа час на пачатку XX стагоддзя на Захадзе, на жаль, ніхто не ведаў, што існуе такая краіна, як Беларусь, што яна адрозніваецца ад Польшчы і Расіі і прэтэндуе на незалежнасць. Калі еўрапейцы і амерыканцы не ведалі пра беларусаў нічога, давесці ім пра неабходнасць незалежнасці гэтага народа было нерэальна. Вось адзін прыклад гэтага няведання. Пры перакладзе беларускіх дакументаў на англійскую мову наша краіна атрымала назву White Russia – і пасля гэтага ў Англіі пачалася дыскусія. Гучалі версіі, што "белыя" захапілі тэрыторыю Беларусі і дайшлі да Вільні.

**– Дарэчы, белагвардзейцы цікавіліся дзейнасцю БНР?**

– Цікавіліся гэтак жа сама, як і ўсім тым, што адбывалася на прасторах былой Расійскай імперыі. Аляксандр Бахановіч, палкоўнік інжынерных войскаў, спрабаваў нават стварыць у Адэсе Беларускі краёвы ўрад – і ў мясцовых газетах з'явілася тэлеграма генерала Дзянікіна ў яго падтрымку. У тым ліку і такім чынам "белыя" спрабавалі ўтрымаць Беларусь у складзе Расіі. Паколькі Бахановіч і іншыя падобныя дзеячы ўзнікалі невядома адкуль і да гэтага не былі заўважаны ў беларускім руху, выклікае падазрэнні, што іх дзейнасць была небескарыслівая.

**– Хто мог стаць першым прэзідэнтам БНР? Цывільны палітык? Або вайсковец? Нездарма пасля Першай сусветнай вайны ў большасці краін Усходняй Еўропы (акрамя Чэхаславакіі) былі ўстаноўлены ваенныя дыктатуры.**

– Краіны Усходняй Еўропы прыйшлі да дыктатур не адразу – як правіла, іх усталяванню папярэднічаў больш ці менш перыяд парламенцкай дэмакратыі. Людзей жа, схільных да ўсталявання дыктатуры, звычайна вылучала само жыццё. І зусім не абавязкова яны паходзілі з ліку прафесійных вайскоўцаў. Напрыклад, Юзаф Пілсудскі яшчэ да вайны арганізаваў у Аўстрыйскай імперыі польскія легіёны. З іх дапамогай ён пазней прыйшоў да улады. Але беларусы не здолелі стварыць самастойнага войска. Калі такія злучэнні ўзнікалі, дык толькі пад чужым камандаваннем – у складзе польскіх і літоўскіх узброеных сіл. У тых умовах ніводны вайсковец не меў магчымасці сябе праявіць.

**– А як жа генерал Станіслаў Булак-Балаховіч? Колькі гадоў таму "Белсат" зняў пра яго дакументальны фільм "Генерал няскончанай вайны".**

– Ён не меў стратэгічных талентаў, не ўмеў распрацоўваць аперацыі на фронце. Яго мабільная армія добра дзейнічала ва ўмовах партызанскай вайны. Гэтым ён нагадваў такіх людзей, як Нестар Махно, Васіль Чапаеў, Сямён Будзённы, якія да сусветнай вайны не былі вайскоўцамі, але мелі прыхаваныя таленты, якія раскрыліся падчас грамадзянскай вайны.

У Беларусі хапала цывільных лідараў. Напрыклад, Антон Луцкевіч – найбольш дасведчаны палітык з прыстойнай адукацыяй і вялікімі сувязямі. Многія з тых людзей, якія потым апынуліся ў кіраўніцтве літоўскай або польскай дзяржавы, былі асабіста знаёмы з ім яшчэ да рэвалюцыі 1917 года – напрыклад, па сумеснай дзейнасці ў масонскіх ложах.

**– БНР утварылі масоны?**

– Не (*смяецца*). Людзі любяць шукаць у гістарычных падзеях масонскія змовы. У нацыянальным руху масонаў было няшмат. Антон Луцкевіч, яго брат Іван (ён рана памёр з-за сухотаў), Вацлаў Ластоўскі, Дамінік Сямашка... Але кожны з іх меў у масонскіх ложах свае інтарэсы і цікавасці. Непасрэднага ўплыву на ўтварэнне БНР масоны не мелі. Гэта былі звычайныя знаёмствы.

Але існуе яшчэ адна акалічнасць, на якую не мог паўплываць нават Луцкевіч. Дзяржаўная сістэма не была створана, улады БНР не маглі збіраць падаткі з насельніцтва. Патрэбныя грошы магла даць эліта (прадстаўнікі шляхты і буржуазіі), што мела знаёмствы на Захадзе. Яна магла стаць праваднікамі інтарэсаў БНР на міжнароднай арэне. Той жа Раман Скірмунт, рэспектабельны палітык, багаты памешчык, яшчэ да рэвалюцыі з'яўляўся дэпутатам Дзяржаўнай думы. Але беларускі рух арыентаваўся на ніжэйшыя пласты грамадства. Беларускія эсэры і іншыя палітычныя партыі прапаноўвалі забраць зямлю і падзяліць паміж сялянамі. Калі б іх радыкальныя праграмы былі рэалізаваны, эліта страціла б усё, што мела. Таму ўсе людзі з грашыма бачылі ў беларускім руху не саюзніка, а ворага. У выніку нават імаверныя шанцы на поспех аказаліся страчанымі.

**– Якое рашэнне дзеячаў БНР стала іх фатальнай памылкай?**

– Гледзячы на абвяшчэнне БНР з адлегласці часу, трэба прызнаць: рэальных шанцаў на поспех у тых умовах проста не было. Па сутнасці, рабілася ўсё, што ў тых умовах можна было рабіць. Асноўная прычына няўдачы – унутраная слабасць беларускага нацыянальнага руху з усім тым, што з гэтага вынікае, а не нейкія дапушчаныя памылкі. На жаль, за некалькі месяцаў ці нават гадоў немагчыма паўнавартасна прайсці той шлях, на які іншым народам спатрэбіліся дзесяцігоддзі.

Галоўнае, што дзеячы БНР запусцілі ў масы саму ідэю, што можа існаваць беларуская незалежная дзяржава са сваімі межамі, што беларускі народ не горшы за іншыя. Пасля 1918 года гэта ідэя не памірала і актуальная дагэтуль. Цяпер, у тым ліку дзякуючы і БНР, існуе беларуская дзяржава, прызнаная ўсім светам.

**Гутарыў Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ФОРТУНА

*Инна ЛИСОВА:*

# «По Северному полюсу пришлось прогуляться в кроссовках…»



*Несколько лет назад аспирантка Витебского государственного университета имени П.М.Машерова приняла участие в интеллектуальной игре «Что? Где? Когда?». Вопросы, которые придумала девушка, оказались настолько сложными, что даже загнали в тупик известного знатока Александра Друзя. В качестве приза Инна Лисова получила денежное вознаграждение, а также два билета на... Северный полюс. «Народная Воля» расспросила Инну не только о том, чем ей запомнилось далекое путешествие.*

**– Инна, вы еще продолжаете учебу?**

– Да, учусь в аспирантуре и второй год являюсь младшим научным сотрудником научно-исследовательского сектора. Я окончила университет по специальности «преподаватель русского языка и литературы», а также немецкого языка. До этого года преподавала на факультете довузовской подготовки, а сейчас готовлюсь к кандидатскому экзамену.

**– Как решились поучаствовать в «Что? Где? Когда?»?**

– Игра проходила в декабре 2012 года. Вопросы отправила спонтанно. Моя мама в прошлом учитель мировой художественной культуры. Большая поклонница и белорусской, и русской версий игры. Однажды предложила почитать книгу, сказала: «*Могут получиться неплохие вопросы, посмотри*». Это была энциклопедия, которая и навела на размышления. Из нескольких предложенных нами вопросов выбрали три, которые попали на игру.

**– Какие вопросы прозвучали в финале?**

– *«Что символизирует в китайской опере актер, бегающий по кругу с плетью?».* Александр Друзь дал правильный ответ: *«Скачет на лошади».*

На следующий вопрос «*Что показывает актер, приседающий с лопаткой в руках, имитируя большое напряжение?*» знаток ответил неверно. Александр Друзь предположил, что актер копает яму. На самом деле он плывет в лодке.

**– Как давно вы в интеллектуальных играх?**

– Очень давно. Я училась в Октябрьской средней школе Витебского района, и у нас была замечательная учительница биологии, которая вела кружок «Что? Где? Когда?». В то время в городе очень часто проводили различные интеллектуальные турниры: «Брэйн-ринг», «Кубок княгини Ольги» и другие.

Играла в составе команды «Альфа и Омега», была капитаном команды «Сто процентов», дома даже диплом лежит «Лучшему капитану» *(смеется).*

**– На программу вы ездили в Москву?**

– Да. Мне позвонили организаторы и сказали, что вопросы, возможно, попадут на игру. У меня спросили: «Готовы ли вы приехать?» Потом позвонила Валентина Алексеевна Андреева – главный редактор телекомпании «Игра», и мы очень долго разговаривали с ней о вопросах, о значении игры в моей жизни, о разнице между белорусской и российской версиями, о поездке...

В Москву я приехала за сутки до игры. В первый день была репетиция: постановка, как правильно выходить, как реагировать и т.д.

**– Белорусская и российская версии сильно отличаются?**

– Наши игры, насколько я знаю, транслируются в записи, а в Москве идет прямой эфир.

Многое зависит от ведущего. Стиль Алеся Мухина очень мягкий, в напряженных ситуациях он сглаживает обстановку, подбадривает команду.

**– Победа для вас стала неожиданностью?**

– Момент был очень волнительный. Когда объявили о поездке на Северный полюс, я вообще не поняла, что происходит *(смеется).* В моем понимании путешествие на Северный полюс – это такая серьезная экспедиция, которая долгое время готовится и для которой нужны определенные физиологические характеристики, крепкое здоровье и т.д. Но, как оказалось позднее, это вполне комфортный круиз со всеми удобствами...

**– С Александром Друзем, которого обыграли, разговаривали после игры?**

– Состоялся очень приятный диалог. Я поблагодарила знатока за игру.

**– «Сделать» такого знатока, как Друзь, дорогого стоит...**

– Не думаю, что это большое достижение. Бывают такие вопросы, на которые не позволяет ответить настроение, может логика в определенный момент подвести...

Я не рассчитывала на такой результат. В первую очередь мне хотелось получить впечатления и посмотреть на игру изнутри. Очень люблю «Что? Где? Когда?». Часто пересматриваю программы времен Владимира Яковлевича Ворошилова.

**– С кем вы отправились на Северный полюс?**

– С моим молодым человеком. Он интересовался устройством ледокола, его мощностью, историей. Ведь «50 лет Победы» на сегодняшний день самый крупный ледокол.

**– Как проходило путешествие?**

– Это туристическая поездка, которую три раза за сезон проводит компания Poseidon Expeditions. Организаторы набирают разнонациональные группы и в течение двух недель идут к полюсу и обратно. Нас было около 130 человек. Люди образованные, начитанные, интересные в общении. По пути посещали различные достопримечательности.

Жили на борту атомного ледокола «50 лет Победы». Каждый день нам выдавали программку с перечнем мероприятий на день. Подъем был в 6.30 утра – спать было некогда. Такой активный отдых у нас был *(смеется)!* Хотя время на Северном полюсе – относительное понятие. Летом там светло круглые сутки. Чувства, что мы не высыпаемся, не было. Наверное, из-за впечатлений, которых было очень много.



**– Высадки на берег были?**

– Да, конечно. Но многое зависело от погодных условий. Первый раз мы попытались высадиться в Тихой бухте, когда шли на Северный полюс. Но не получилось из-за сильного ветра, а на обратном пути остановиться все-таки удалось.

**– Из Витебска брали с собой теплые вещи? Все-таки ехали из лета в глубокую зиму...**

– Я взяла очень большой чемодан. Как оказалось позже, мы его брали зря. Половина вещей оказались лишними. У меня сформировалась культура путешествия – теперь большие чемоданы я никуда не беру *(смеется).* Нам выдали резиновые сапоги и куртку, так что мои переживания, что замерзну, были излишними.

Когда мы выезжали из Витебска в Мурманск, начинался «Славянский базар». В июле на ярмарке мы купили зимние варежки, что облегчило процесс сбора в дорогу. Не нужно было бегать по городу и летом искать варежки. Хотя были и непредвиденные ситуации. Например, мне пришлось прогуляться в кроссовках по Северному полюсу после купания в водах Арктики. Также мы присутствовали на церемонии бракосочетания. Капитан ледохода на судне может зарегистрировать брак. И во время нашего путешествия состоялась свадьба знатоков клуба «Что? Где? Когда?» Анастасии Шутовой и Ильи Новикова.

**– А расскажите подробнее, как вы вдруг решили нырнуть в Арктику.**

– Я подумала, что такое возможно один раз в жизни и поэтому нельзя упускать шанс. Несмотря на мороз, выстраивались очереди желающих! Конечно, за нами следили специалисты, соблюдались все правила техники безопасности. После купания выдавался сертификат моржа.

Когда поднимаешься на берег, на тебя сразу накидывают халат и протягивают рюмку водки, чтобы согреться. Уже через полчаса было такое ощущение, что и не окуналась, – можно было нырнуть еще *(смеется).* Правда, промокла обувь, которую нам дали, поэтому по полюсу пришлось прогуляться в кроссовках...

**– Белых медведей видели?**

– И не раз! Сама миссия на Северный полюс, с одной стороны, была туристическая, а с другой – научно-исследовательская. На борту ведь было много как профессиональных ученых, так и любителей со всего мира. Поэтому на любой вопрос всегда был ответ. Был целый курс лекций об истории открытия Северного полюса, о его особенностях. Некоторые экскурсии происходили прямо на высадках. Мы побывали на острове Чамп, который известен своими камнями округлой формы, и никто не знает, почему они круглые. Была высадка, когда мы смотрели на моржей. Там тоже нашелся ученый, который очень доступно рассказал нам об этих животных.

**– Инна, вы по натуре домашний человек?**

– Да. И несмотря на то, что за последний год за время учебы в аспирантуре я побывала более чем в 10 городах, я очень люблю Витебск, здесь дом и какое-то душевное спокойствие. Хотя в то же время я очень легка на подъем и с удовольствием могу поучаствовать в какой-нибудь авантюре.

**– Если не секрет, на что вы потратили выигрыш?**

– Сумма выигрыша составила 355 тысяч российских рублей, из которых 30 процентов ушли на налог. Половину я отдала маме, поскольку участием в игре была обязана ей. К деньгам я отношусь равнодушно, более серьезно я воспринимаю пользу, которую они могут принести. Ну а та часть, которая осталась мне, пошла на подготовку диссертации: поездки в библиотеки и другие технические моменты.

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
*Витебск.*



НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Зміцер Вайцюшкевіч запрашае ў Вільнюс




*6 чэрвеня ў Вільнюсе адбудзецца канцэртная прэзентацыя новага альбома Зміцера Вайцюшкевіча «Наша песня». Гэта будзе першае выязное выступленне артыста для беларускай публікі з бясплатнай візавай падтрымкай.*

Зміцер Вайцюшкевіч – адзін з галоўных прадстаўнікоў сучаснай беларускай нацыянальнай песні. На яго рахунку паўтара дзясятка альбомаў і канцэртных праграм на вершы беларускіх паэтаў – Барадуліна, Някляева, Бураўкіна, а таксама замежных паэтаў у перакладзе на беларускую. Шмат хто нават жартуе, што дзеля прапаганды беларускай паэзіі і мовы Вайцюшкевіч зрабіў больш, чым Міністэрства культуры.

Праз актыўную грамадзянскую пазіцыю Зміцер не раз трапляў у неафіцыйныя спісы музыкантаў, чые выступленні ў Беларусі, а таксама эфіры на радыё і тэлебачанні сустракаюць усе магчымыя перашкоды. У кастрычніку мінулага года Вайцюшкевіч даў першы за 3,5 года (пры гэтым аншлагавы!) сольны канцэрт, але пасля гэтага яшчэ два выступленні ў Мінску былі сарваны. Праз адсутнасць іншых магчымасцяў для сустрэчы з беларускай публікай, музыкант вырашыў даць першы ў сваёй кар'еры «выязны» канцэрт у Вільнюсе. Выступленне адбудзецца ва ўтульнай зале Дома польскай культуры, разлічанай на 500 гледачоў.

– *Плануем вялікую двухгадзінную праграму з двух аддзяленняў. Першае – прэм'ера новага альбома на вершы беларускіх паэтаў. Другое – найлепшыя песні розных гадоў*, – распавядае Вайцюшкевіч. – *Гэта будзе прыгожае выступленне поўным складам WZ-Orkiestra. Нягледзячы на ўсе знешнія абставіны, падтэкст канцэрта, як і альбома, будзе пазітыўны, лірычны і жыццесцвярджальны. Вясна ж на дварэ!*

Квіткі з правам на візавую падтрымку (аднаразовая віза без консульскага збору са спрошчаным наборам дакументаў, тэрмін дзеяння з 5 да 7 чэрвеня ўключна) ужо ў продажы. Набыць іх можна толькі ў «Тэатральнай касе» па адрасе: Мінск, вул. Калініна, д.5. Там жа адбываецца рэгістрацыя на падачу дакументаў у Амбасаду Літоўскай Рэспублікі (Мінск) і Генеральнае консульства (Гродна). Апошні тэрмін падачы – 29 мая. Квіткі без візавай падтрымкі можна набыць у сістэмах Kvitki.by (Беларусь) і Bilietai.lt (Літва).

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЮБІЛЕЙ

# Сонечная душа Стэфанія Станюта



*13 мая Стэфаніі Міхайлаўне Станюце, народнай артыстцы Савецкага Саюза, народнай артыстцы Беларусі, знакамітай актрысе Купалаўскага тэатра споўнілася б 110 гадоў.*
*У нацыянальным тэатры разам з ёю працавала суцэльнае суквецце выбітных талентаў: Барыс Платонаў і Глеб Глебаў, Ірына Ждановіч і Вольга Галіна, Вера Пола і Лідзія Ржэцкая, сярод іх было шмат цудоўных людзей, але такім сонечным чалавекам была толькі яна. Беларускі драматург Аляксей Дудараў усур'ёз сцвярджаў, што дзень, калі яму сустракалася Станюта, абавязкова быў шчаслівы і паспяховы.*



## Паветра тэатра

Яна адпрацавала ў родным тэатры больш за ўсіх, таму што прыйшла на гэтую сцэну, калі і тэатра яшчэ не было, а была суполка аматараў пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча, якая называлася Першае таварыства беларускай драмы і камедыі.

Трапіла яна туды зусім выпадкова. Яе лепшая сяброўка Оля Вашкевіч ужо была статысткай у Таварыстве, танцавала мазурку Віняўскага і магла гаварыць толькі пра гэта. Канешне, і Стэфка не магла не пайсці з ёю ў статысты. Ёй было тады 14 гадоў. Яна разам з усімі ўдзельнічала ў масоўках, у хоры. І была шчаслівая, таму што той, хто ўдыхнуў паветра куліс, ужо ніколі не можа развітацца з гэтай салодкай атрутай.

Праз год ёй далі нават ролю са словамі. У спектаклі па п'есе Галубка "Ганка" яна была дзяўчынкай Хімкай. Трэба была выйсці на сцэну і сказаць адзіную фразу: "Ганка ў студні ўтапілася". Стэфка выйшла, убачыла белыя твары гледачоў (чамусьці ў цемры глядзельнай залы яны ўсе здаваліся белымі) і знямела. А потым, забыўшыся, што Хімка – гэта ж яна сама, крыкнула: "Хімка ў студні ўтапілася!" Зала грымнула рогатам. Стэфка зляцела са сцэны, зашылася ў кулісы і горка румзала, прыгаворваючы: "Засмяюць! Не даруюць! Выганяць!"

Не выгналі. І даравалі. І нават, калі ёй споўнілася 16 гадоў, разам з іншымі таленавітымі хлопцамі і дзяўчатамі паслалі ў Маскву вучыцца ў Беларускай студыі драматычнага мастацтва...

Яна была не падобная на іншых. Высокая, гнуткая, амаль бесцялесная і такая пластычная, такая грацыёзная. І так дзівосна рухалася. "Ёй бы ў балет", – уздыхалі настаўнікі і давалі Станюце ролі незвычайных істот. Яна была багіняй Венерай у народнай драме "Цар Максіміліян", царыцай эльфаў Тытаніяй у "Сне ў летнюю ноч" Шэкспіра, Псіхеяй у "Эрасе і Псіхеі" Е.Жулаўскага, вакханкай Агавай у "Вакханках" Эўрыпіда. І гэтыя ролі, падрыхтаваныя ў студыі, яна выконвала на сцэне БДТ-2 у Віцебску.

Мы можам убачыць, якой была Стэфанія ў 21 год на партрэце, напісаным яе бацькам. Ён знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Бацька па пасадзе быў рахункаводам, а ў душы – мастаком. Ён наведваў шмат мастацкіх студый і нават два гады, з 1918-га па 1920-ы, вучыўся ў Маскоўскіх вольных мастацкіх майстэрнях у знакамітых М.Касаткіна і А.Архіпава. "Партрэт дачкі" – адна з самых вядомых ягоных работ. Юная Стэфанія сядзіць, падкурчыўшы ногі, на галаве вузкі беларускі паясок, а абедзве касы леглі на калені. Цудоўныя косы дасталіся ёй у спадчыну ад маці Хрысціны Іванаўны Хілько. Калі яна сядала ў крэсла і распускала сваю касу, то чорная бліскучая кучаравая хваля лілася да самай падлогі. "Партрэт дачкі" Міхася Станюты разам з іншымі палотнамі Мінскай карціннай галерэі быў вывезены немцамі ў Германію. Там пасля перамогі адшукала яго дырэктар Мастацкага музея Алена Васільеўна Аладава і вярнула ў Мінск.

Юная Стэфанія літаральна свяцілася маладосцю і шчасцем. І гэта вабіла людзей, якія сустракаліся з ёю. Ёй у альбом пісалі свае вершы з прысвячэннямі Якуб Колас, Міхась Чарот, Цішка Гартны.

У Віцебску, куды студыйцы прыехалі, каб стварыць Беларускі дзяржаўны тэатр – 2, Стэфанія іграла сваіх эльфаў і багінь і была сапраўднай гераіняй. Але ўсё роўна хацелася вярнуцца ў Мінск, на сваю першую родную сцэну.

Вярнулася ў 1931 годзе не ў самы лепшы для сябе час. У купалаўцаў працавала столькі таленавітых прыгажунь, што іх хапіла б і на два, і на тры тэатры. А яе прыгажосць і хударлявасць не былі тады ў модзе, і Станюту пачалі лічыць актрысай характарнай і нават камедыйнай. Яна рабіла сваіх гераінь яркімі, запамінальнымі, вельмі выразнымі, але гэта былі ўжо вусатая пачвара Дуэнья ў спектаклі "Дзень цудоўных падманаў" Ф.Шэрыдана, злосная прыгонніца пані Вашамірская ў спектаклі "Салавей" З.Бядулі, бабуля Вера з "Маладой гвардыі" А.Фадзеева, Карміліца з "Рамэа і Джульеты" У.Шэкспіра.

І хто цяпер успомніць, што першай Зіначку Зёлкіну ў знакамітай камедыі "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы сыграла Станюта? Ва ўсіх на памяці Зіначка народнай артысткі Зінаіды Браварскай, таму што менавіта яна сыграла гэтую ролю ў кінаверсіі спектакля. А без кіно акцёр не мог стаць знакамітым.

**Мая ГАРЭЦКАЯ.**
*(Працяг будзе.)*

НОВЫЕ ИМЕНА

*Татьяна ТИЛИГУЗОВА:*

# «Не хочу быть балериной без семьи и детей»



***Татьяна Тилигузова живет в Петербурге уже 10 лет. Она уехала в северную столицу России продолжать учебу в Вагановской хореографической академии. В Минске остались родители, но дома девушка бывает нечасто. Татьяна служит в Мариинском театре. Спектаклями, репетициями или гастролями занят практически каждый ее день. Но для «Народной Воли» балерина нашла время и рассказала о том, как живут артисты одного из известнейших театров, о диетах балерин и о том, готова ли танцовщица пожертвовать семьей ради карьеры.***

**– Татьяна, в юном возрасте детям нередко выбирают профессию родители. В балет вас наверняка привели мама и папа?**

– В балет я пришла по собственному желанию. С пяти лет занималась художественной гимнастикой. Гимнастика и балет во многом схожи. Разница, конечно, есть – спорт и искусство, но общего в них тоже много. С детства мама и папа водили меня на балетные спектакли, поэтому я знала, что это такое.

О том, что буду танцевать, не задумывалась. Хотела стать гимнасткой, а в будущем – тренером. Мечтала связать свою жизнь со спортом. Через некоторое время передумала и решила уйти в балет. В Белорусский государственный хореографический колледж поступала с опозданием на полгода. Классы уже были набраны. Но меня взяли. Упущенные 6 месяцев пришлось наверстывать. У меня были хорошие данные, поэтому особых трудностей не возникло.

**– Родители не возражали?**

– Родители всегда прислушивались к моему мнению. Они живут в Минске. Папа работает архитектором, а мама – бухгалтером. По ним я очень скучаю. Хотя уже не первый год живу в Санкт-Петербурге, домой тянет всегда.

**– Татьяна, а почему не захотели учиться в Беларуси?**

– Это была моя детская мечта – окончить Петербургскую или Московскую академию балета. Заведения, в которых учились звезды с мировым именем. В Минске были прекрасные педагоги. Получить хореографическое образование в Беларуси – хорошо, но учиться в Вагановской академии в Санкт-Петербурге – совсем другой уровень. Так что дело было исключительно в школе балета...

**– Когда мы договаривались об интервью, вы находились в Нью-Йорке. Были на гастролях?**

– Да. Там проходил конкурс балета, и я танцевала в гала-концерте, посвященном окончанию этого конкурса.

**– У американцев большой интерес к Мариинскому театру?**

– Мы часто приезжаем на гастроли в США. В январе уже побывали в Нью-Йорке и Вашингтоне. Люди приходят на спектакли – значит, интерес есть.

**– Остается время на то, чтобы во время гастролей погулять по городу, сделать какие-то покупки?**

– По-разному. Все зависит от репертуара, который мы везем. Если танцуем на протяжении всех гастролей один балет, тогда времени побольше. Бывает, к примеру, что привозим пять балетов. В этом случае сплошная работа. Сегодня танцуешь «Лебединое озеро» и репетируешь на завтра «Корсар», завтра танцуешь «Корсар» и репетируешь «Щелкунчик» на послезавтра. И в итоге не до покупок уже.

**– Выступать в Мариинском театре, наверное, тоже мечтали с детства?**

– Да. Попала я в Мариинку обычным путем. По окончании Вагановской академии на госэкзамен пришел художественный руководитель театра и выбрал меня к себе в труппу. В Мариинку тяжело попасть. Как правило, берут 2–3 девочек с курса.

**– Вы работаете в одном из лучших театров мира. Требования к артистам, наверное, огромные?**

– Нужны хорошие физические данные. Красивая внешность. И самое главное – дисциплинированность и колоссальная трудоспособность. Последние качества особенно ценятся в театре. У нас очень много работы, с открытием второй сцены (*всего их три*) спектаклей стало намного больше. Танцуем в балетах почти каждый день.

**– Петербург – город не маленький. Вам далеко добираться до театра?**

– Нет, живу рядом. Просыпаюсь в 9.30, собираюсь и иду на репетиции к 11.00. В течение дня небольшой перерыв, и опять занятия, подготовка к выступлениям. Я танцую и соло, и кордебалет, а это значит, что репетиций больше. По вечерам либо репетиции, либо запланированные спектакли. Домой я ухожу после 22.00.

**– Вам приходилось сидеть на диете или танцовщицы могут есть что захотят?**

– Все зависит от человека и его конституции. Есть люди, которые не заморачиваются насчет еды и себя не ограничивают. Но таких в балете единицы. Если балерина хочет выглядеть хорошо, она будет придерживаться диеты. Понятно, что все живые люди, и иногда так хочется съесть шоколадку или пирожное, что прямо сил нет! Поэтому самую малость позволить себе можно.

Лично я ем все, но небольшими порциями, то есть часто, но мало. Это не полноценные завтрак, обед и ужин, а обычные перекусы, которых за день у меня может быть 6 или 7.

**– Татьяна, а правда, что многие танцовщицы мечтают о роли в «Лебедином озере»?**

– Станцевать партию Одетты-Одиллии в «Лебедином озере», которая считается одной из самых сложных в классическом репертуаре, дорогого стоит. Я бы, конечно, хотела станцевать эту партию, но есть и другие, не менее интересные, к которым можно и нужно стремиться.

**– Какие?**

– Это главные женские партии в балетах «Легенда о любви» и «Баядерка».

**– В одном из интервью заслуженный артист Беларуси Антон Кравченко сказал: «*Балет очень опасен для женщин из-за поддержек. Партнер может не удержать девушку и уронить, а это травмы, боль... Некоторым приходится навсегда уходить со сцены*». Были ли у вас травмы по вине партнеров?**

– Слава Богу, такого не было. Травмы у мужчин тоже могут произойти. Вероятность, мне кажется, одинаковая как у женщин, так и у мужчин. Девушка может неправильно пойти на поддержку и травмировать партнера.

**– Артисты балета суеверные люди?**

– *(Задумалась.)* Даже не знаю. Это зависит от человека. У меня специальных ритуалов нет. Перед выходом на сцену могу перекреститься, но не считаю это чем-то необычным.

**– Вы работаете в театре вместе с именитыми Ульяной Лопаткиной и Дианой Вишневой. Известные танцовщицы делятся опытом с начинающими?**

– Да, в совете они не откажут. Сейчас я могу подойти и что-то спросить по конкретной партии. Как только пришла в театр, известные танцовщицы казались мне настолько недоступными из-за популярности, что в их сторону я боялась и посмотреть. Но в процессе работы поняла, что это не так. Нередко они сами могут подойти и завести разговор. Особенно Ульяна Лопаткина. Диана Вишнева редко бывает в Петербурге. Сейчас она танцует в основном за границей.

**– Татьяна, раз уж заговорили про заграницу... Давайте представим, что, например, «Нью-Йорк Сити Опера» предлагает вам постоянное сотрудничество. Согласитесь на предложение?**

– Я согласилась бы, но при одном условии – совмещать с работой в Мариинке. Танцевать в России и в Америке – идеальный вариант. Но уехать на постоянное место жительства за океан, наверное, не готова. Во всяком случае на сегодняшний момент точно нет. Не отказалась бы сотрудничать с белорусским Театром оперы и балета. Мне нравится труппа, интересный репертуар.

**– Татьяна, насколько прибыльно сегодня выступать на сцене? Вы, как танцовщица театра, который знаменит на весь мир, задумываетесь о материальных вопросах или можете себя полностью посвятить репетициям, выступлениям?**

– Не могу сказать, что я вообще не думаю о деньгах, но мне вполне хватает. Возможно, я не супертребовательная, хотя и не ограничиваю себя в покупках или поездках. У меня нет цели заработать все деньги. В первую очередь думаю о творчестве.

**– А в каких бытовых условиях живет в Петербурге балерина Мариинского театра?**

– Ну, это как посмотреть... для кого-то эти условия могут показаться ужасными, а для кого-то очень даже ничего. Меня моя бытовая жизнь устраивает.

Я живу в театральном общежитии. У меня отдельная комната. Мои соседи – люди, которые также служат в театре. У нас общая кухня на пять комнат. Спокойная интеллигентная обстановка, я бы сказала – домашняя. Понимаю, что сразу шикарных условий не бывает, тем более что я приехала из другой страны в город, где у меня не было ни одного хорошо знакомого человека. Как говорится, Москва не сразу строилась!

**– Думали, чем займетесь после завершения карьеры?**

– И не раз! Но пока на чем-то конкретном не остановилась. Собираюсь продолжить образование. Могу сказать, что деятельность в любом случае будет связана с искусством. Возможно, начну преподавать. У меня был минимальный опыт работы в этой сфере. Преподаванию, конечно, также нужно учиться. Хорошая танцовщица не значит хороший педагог. Поживем – увидим...

**– Вы довольны тем, как складывается карьера на сегодняшний день?**

– *(Задумалась.)* Нет однозначного ответа. Артист не может ограничиваться какой-то конкретной ролью или их количеством. Конечно, всегда хочется станцевать как можно больше разных партий, о которых мечтаешь. Век артиста балета короткий, и все время кажется, что ты что-то не успеешь воплотить в жизнь на сцене. Но, думаю, все впереди. Скажу честно, меня не все устраивает, но я работаю, чтобы изменить ситуацию.

**– Татьяна, наверное, каждый рано или поздно делает выбор: карьера или семья, дети. Вы об этом задумывались?**

– Я не хочу быть балериной без семьи и детей. Посвятить жизнь только театру я не готова. Все должно быть своевременно. На данный момент меня волнует развитие карьеры. Возможно, через некоторое время все изменится. Я думаю, вполне реально создать полноценную семью, родить ребенка и вернуться на сцену. Все зависит от самой балерины, ее характера, силы воли, ну и, конечно, от жизненных обстоятельств.



**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

МАЛАЙЧЫНА!



# Дзяўчына на пяць медалёў!

У мінулыя выхадныя завяршыўся 31-ы чэмпіянат Еўропы па мастацкай гімнастыцы, які праходзіў у Мінску. Адну залатую, чатыры сярэбраныя і чатыры бронзавыя медалі заваявалі беларускія спартсменкі. Лідар жаночай зборнай Беларусі Меліціна Станюта фінішавала другой у практыкаванні з абручом, саступіўшы расіянцы Маргарыце Мамун. Бронзу ў гэтых спаборніцтвах заваявала яшчэ адна беларуска Кацярына Галкіна.

У практыкаванні з мячом дзве верхнія прыступкі п'едэстала засталіся за расіянкамі Янай Кудраўцавай і Маргарытай Мамун, а тройку наймацнейшых замкнула Станюта.

У фінале з булавамі беларускія дзяўчаты Станюта і Галкіна набралі аднолькавую суму балаў, а таму падзялілі трэцяе месца. Першынствавала расіянка Кудраўцава, следам размясцілася ўкраінка Ганна Рызатдзінава.

І, нарэшце, у кампазіцыі са стужкай Станюта заваявала яшчэ адзін сярэбраны медаль, прапусціўшы наперад Кудраўцаву, якая атрымала перамогі ў трох відах праграм на мінскім першынстве.

### Медальны залік:

Расія – 6 залатых, 2 сярэбраныя медалі,
Беларусь – 1, 4, 4,
Украіна – 0, 1, 2,
Азербайджан, Ізраіль – па 0, 0, 1.

ЧТОБЫ ПОМНИЛИ

# Они тоже были творцами Великой Победы...

Работая в спортобществе «Динамо», мне посчастливилось трудиться со многими динамовцами – ветеранами Великой Отечественной войны.

И первый, с кем меня свела судьба, был Владимир Львович Коган. Во время войны он был воздушным стрелком. Защищал Москву, в конце войны бомбил Берлин. В его летной книжке записано 140 боевых вылетов! Мундир майора запаса украшали ордена Отечественной войны, Красной Звезды и многие медали.

После Победы он вернулся в Минск и активно включился в развитие бокса в Беларуси, при этом сам тоже продолжал выступать. Коган – чемпион СССР 1949 года и девятикратный чемпион БССР.

Владимир Львович состоялся и как Тренер с большой буквы. Он первый получил в 1957 году звание заслуженного тренера СССР.

Часто вспоминаю, как Коган мне говорил: «Может быть, нескромно, но мне кажется, что в своем служении стране и спорту я мог бы стать примером для молодого поколения». Беру на себя смелость утверждать, что в сказанном он был прав. Владимир Львович, к большому сожалению, ушел из жизни...

Особые слова уважения и заслуженному тренеру СССР Герману Матвеевичу Бокуну. Герман Матвеевич участвовал в боях на Ленинградском и 3-м Украинском фронтах. Великую Отечественную прошел с первого до последнего дня. Награжден многими медалями, в том числе «За оборону Ленинграда» и «За победу в Великой Отечественной войне». После окончания войны он полностью посвятил себя служению спорту. Красноречивым подтверждением его заслуг следует назвать следующее: на протяжении семи Олимпиад (1956–1980) белорусское фехтование радовало своими успехами... Семь золотых, четыре серебряные и три бронзовые медали завоевали ученики Бокуна. Поверьте, достижения тренера Г.Бокуна до сих пор никем не превзойдены!

Хочу накануне 9 Мая добром вспомнить и полковника Вениамина Яковлевича Дорофеева. Службу в Советской Армии он начинал с царицы полей – пехоты. Первое боевое крещение получил в Курской битве. В этом кошмарном сражении от его взвода осталось в живых всего двое. Сам Дорофеев был ранен, контужен и до конца войны получил еще пять ранений, но судьба явно берегла его.

Вениамин Яковлевич был награжден тремя орденами и двумя десятками медалей. Уже после войны он окончил парашютно-десантное училище. Совершил более трех тысяч прыжков и подготовил двадцать мастеров спорта. За что ему присвоено звание заслуженного тренера республики.

Конечно, в динамовских рядах трудились многие участники Великой Отечественной войны, я рассказал только о троих. Но помним – всех...

**Юрий ЯСИНСКИЙ, заслуженный тренер Беларуси.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Мінскае "Дынама" святкуе "юбілей"

*У футбольнай камандзе чарговая змена трэнераў.*



У якасці новага галоўнага трэнера футбольнага мінскага "Дынама" 47-гадовы Душан Угрын *(на фота)* быў прадстаўлены ў снежні мінулага года. Пагадненне з чэшскім спецыялістам было падпісана на год. Днямі стала вядома, што чэх адпраўлены ў адстаўку.

*"У сувязі з нездавальняючымі вынікамі на старце сезона кіраўніцтва ЗАТ ФК "Дынама-Мінск" прыняло рашэнне вызваліць ад абавязкаў галоўнага трэнера Душана Угрына",* – афіцыйна паведаміў клуб.

Пакуль абавязкі "галоўнага" выконвае сербскі спецыяліст Вук Рашавіч, які стаў 30-м трэнерам "Дынама" з таго часу, як гаспадаром клуба стаў бізнесмен Юрый Чыж. З «юбілеем»!

Дарэчы, трэнеры ў "Дынама" змяняюцца, як пальчаткі, а вось апошні раз сталічная каманда станавілася чэмпіёнам у далёкім 2004 годзе. Сумная статыстыка для клуба з багатымі традыцыямі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ХАКЕЙ

*Эдуард ЗАНКАВЕЦ:*

# «Пасля дамашняга чэмпіянату камандзе будзе складаней»

*1 мая ў Чэхіі стартаваў чэмпіянат свету па хакеі.*

Беларуская зборная ўжо правяла на турніры два матчы (выйграла ў Славеніі – 4:2 і прайграла ў авертайме Славакіі – 1:2), але зразумела, што для каманды ўсё толькі пачынаецца.

Поспех на мінулагоднім дамашнім чэмпіянаце (7-е месца) паўтарыць будзе складана, але, як кажуць, нічога немагчымага ў гэтым жыцці няма.

Зрэшты, без праблем не абышлося. Перад ад'ездам каманды ў Чэхію журналісты пацікавіліся ў старшыні Федэрацыі хакея **Ігара Рачкоўскага**: *"Чаму са зборнай не будзе хакеіста Канстанціна Кальцова?»*

*"Гэта адзіны чалавек, па якім мы не ведаем прычыны адмовы*, – адказаў Рачкоўскі. – *Косця сам не можа сфармуляваць, чаму ён не далучыцца да зборнай".*

**– Якія шанцы ў беларускіх хакеістаў на гэтым першынстве?** – з такім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да былога галоўнага трэнера беларускай зборнай **Эдуарда ЗАНКАЎЦА.**

– Паўтарыць мінулагодні поспех будзе вельмі складана, – адзначае наш суразмоўца. – Але склад у зборнай добры. У сваёй большасці каманда падышла да першынства без траўміраваных ігракоў, што ўжо дае падставы спадзявацца, што будзе станоўчы вынік.

**– А ці можа на вынік паўплываць змена трэнера? У мінулым годзе пры Глене Хэнлане ўсе адзначалі вельмі добрую псіхалагічную атмасферу ў зборнай. А зараз, напрыклад, той жа Канстанцін Кальцоў адмовіўся выступаць за каманду, і трэнерскі штаб не здолеў знайсці паразуменне з хакеістам…**

– Я не стаў бы зараз казаць, калі атмасфера была больш здаровай, а тым больш не ведаю, што зараз адбываецца ўнутры каманды. Але, мне здаецца, трэнеры робяць усё, каб у зборнай быў калектыў. Без гэтага на поспех спадзявацца не даводзіцца.

**– Што можаце сказаць пра сапернікаў у групе?**

– Фінляндыя, Расія і ЗША – гэта, безумоўна, зборныя высокага класа, але



і іх можна перамагаць пры ўдалым збегу абставін. А вось астатніх мы ўжо не раз перамагалі, так што, як кажуць, усё ў нашых руках.

**– У мінулым годзе зборная Беларусі выступала ў родных сценах, зараз гуляем у Чэхіі. Розніца ёсць?**

-- Дамашні чэмпіянат – гэта павышаны псіхалагічны ціск на хакеістаў, таму зараз у гэтым плане будзе лягчэй. Ігракі ў нас вопытныя, адыгралі на такіх першынствах не раз. Але чэмпіянат – гэта чэмпіянат. Зборныя збіраюць лепшых, таму лёгкага жыцця ніхто не абяцае. На першае месца тут ужо выходзіць фізічная форма ігракоў і маральны настрой. Але, паўтаруся, нагода для аптымізму ёсць.

**– На якое месца можа разлічваць наша каманда?**

– Добра было б увайсці ў васьмёрку мацнейшых. Задача рэальная, хоць і няпростая. А далей ужо як карта ляжа. У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Сёння зборная Беларусі згуляе з камандай Даніі. За аператыўнай інфармацыяй сачыце на нашым сайце nv-online.info.*

### Расклад матчаў

Чэмпіянат пройдзе з 1 па 17 мая.
**Група "А".** Аўстрыя, Германія, Канада, Латвія, Францыя, Чэхія, Швейцарыя, Швецыя.
**Група "В". БЕЛАРУСЬ**, Данія, Нарвегія, Расія, Славакія, Славенія, ЗША, Фінляндыя.
7 мая. ЗША – Беларусь
9 мая. Беларусь – Расія.
11 мая. Фінляндыя – Беларусь
12 мая. Нарвегія – Беларусь.
Матчы фіналу пройдуць 14 мая, паўфінальныя – 16 мая. Фінал і матч за "бронзу" адбудуцца 17 мая.

ПРОЩАЛЬНЫЕ СЛОВА

*Валентин ЕЛИЗАРЬЕВ:*

# «Плисецкая привезла моей дочери мешок заграничных игрушек»

***Известный белорусский хореограф Валентин Елизарьев не только работал, но и дружил со знаменитой балериной Майей Плисецкой. Последний раз они встречались на балетном конкурсе в Японии.***

– Плисецкая – звезда мировой величины, – *говорит Валентин Николаевич*. – Так получилось, что я единственный в Беларуси, кому посчастливилось с ней работать. Я создал для нее хореографию в фильме «Вешние воды», режиссером которого был Анатолий Эфрос. И на всю жизнь мы с Майей Михайловной сохранили такую очень трогательную дружбу, поддерживали телефонную связь. Она во многих интервью говорила какие-то хорошие слова обо мне...

До сих пор помню свою первую встречу с Плисецкой. Она меня так пристально рассматривала! Мне было тогда 25 или 27 лет – тот еще хореограф для мировой знаменитости *(смеется)*! Но у нас получилась совместная работа. И я как раз недавно просматривал фильм Виктора Шевелевича «Зеркало времени», в котором она говорит: *«Я вообще не люблю повторять движения ни за каким хореографом. У меня своя индивидуальность, я по-другому чувствую, но за Елизарьевым мне все хотелось точь-в-точь повторить!»*

Когда снималось кино, у меня как раз родился второй ребенок, дочка. А Плисецкая на пару дней ездила на концерт куда-то за границу – в Италию, кажется. Так она мне привезла оттуда целый мешок игрушек! Я был потрясен! Откуда-то узнала о рождении дочери и появилась на репетиции с этим огромным мешком, в котором была еще и детская одежда. Это было в 1975 году. Представляете, что такое по тем временам были импортные детская одежда и игрушки?..

У нее мама из Вильно, а папа – из Гомеля, родилась Плисецкая в Москве. Но о ее белорусских корнях при встречах мы почему-то не говорили. Последний раз мы с ней виделись лет пять или шесть назад в Японии – она была председателем жюри балетного конкурса.

В жизни она была не высокомерная, совершенно спокойная. В застольях очень приятный собеседник. Она, конечно, знала себе цену и была очень интересной творческой личностью.

Жалко, что такие хорошие люди умирают...



***Майя Плисецкая умерла 2 мая в Мюнхене, где жила вместе с мужем. Причиной смерти стал сердечный приступ. Согласно завещанию, прощание с Майей Плисецкой пройдет в узком кругу близких ей людей в Германии. Тело всемирно известной балерины будет кремировано, а прах развеян над Россией.***

КСТАТИ

## Родной дядя Плисецкой ставил в Минске «Лебединое озеро»

На сцене Национального академического Большого театра оперы и балета Беларуси долгое время шел балет, который поставил родной дядя Майи Плисецкой балетмейстер Асаф Мессерер.

Именно его семья воспитывала Плисецкую – ее отца, который был высокопоставленным чиновником, расстреляли, обвинив в шпионаже, а мать, актрису, отправили в тюрьму.

*– Асаф Мессерер трижды ставил у нас «Лебединое озеро»,* – рассказывает Валентин Елизарьев. – *Это старое, классическое «Лебединое озеро». И до недавнего времени мы были единственным театром, который имел подлинник хореографии 1901 года, где были собраны лучшие куски работ российских хореографов. Но, к сожалению, в театре не сумели его сохранить...*

**Марина КОКТЫШ.**

ШАШКІ

# Турнір у Паставах

Ён ладзіўся на дошках-64, меў рэспубліканскае значэнне і быў адкрытым. Упэўнена перамог у ім кандыдат у майстры спорту з Маладзечна Аляксандр Барташ (16 ачкоў з 18 магчымых). Другі і трэці прызы ўручаны майстрам спорту Вітольду Цыдзіку і мінчаніну Вячаславу Палянскаму (яны набралі па 12 ачкоў). Шасцёрку лепшых замкнуў арганізатар спаборніцтваў кандыдат у майстры спорту Іван Троцкі (у яго актыве – 11 ачкоў).



Намеснік старшыні Беларускай федэрацыі шашак Віталь Варушыла перадаў па электроннай пошце павучальны фрагмент з партыі:

**Белыя** (Захарчук): a3, c5, d2, d4, f2 (5). **Чорныя** (Салейка): a5, b8, e7, f4, h6 (5). Ход і выйгрыш чорных. Пераканайцеся ў гэтым самастойна. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

## Сімвалічныя клубы

У шашачнай кампазіцыі створаны сімвалічныя клубы, аналагічныя клубу Фядотава ў футболе. Іх членамі становяцца ўдзельнікі першынстваў краіны, якія набралі 100 і больш заліковых ачкоў. А той, хто зрабіў гэта першым, заслужыў, каб клуб быў названы яго іменем. Міжнародны майстар з Бабруйска Аляксандр Кагоцька падрыхтаваў рэйтынг-ліст клубаў па гульні ў шашкі на 100-клетачных дошках. Цяпер, пасля вынікаў 17-га ЧРБ, іх членамі з'яўляюцца: **клуба Булата** (жанр мініяцюр) – Л.Вітошкін, Гомель (262,875 ачка), П.Шклудаў з Наваполацка (196,5), мінчане В.Шульга (168,75), В.Булат (127,25), П.Кажаноўскі з в.Кашэвічы Пінскага раёна (110,525) і А.Сапегін з Усполля Мсціслаўскага раёна (106,95), **клуба Чарнова** (камбінацыйныя праблемы) – П.Шклудаў (285,375), В.Шульга (238,525), Р.Краўцоў з Магілёўскай вобласці (217,5), В.Булат (206,25), Л.Вітошкін (193,25), У.Малашэнка (137,75), М.Грушэўскі з Мінска (134,925), А.Сапегін (130,475), І.Наўроцкі з Мінска (128,25), А.Ляхоўскі з Жодзіна (125,15), М.Крышталь з Пінска (121,0), Л.Чарноў з Мінска (106,25), П.Кажаноўскі (105,025) і Д.Камчыцкі з Магілёва (105,0), **клуба Вітошкіна** (эцюды) – Л.Вітошкін (381,5), В.Шульга (128,975) і К.Малашкевіч з Ліды (109,75) і **клуба Матуса** (задачы) – А.Шабалін з Мінска (358,375), М.Баброўнік з Мазыра (324,0), А.Шурпін з Клімавічаў (278,75), К.Тарасевіч з в.Спорава Бярэзінскага раёна (194,75), мінчане П.Матус (192,75) і Д.Сухарукаў (191,0), У.Кажамякін з Гомеля (177,5), А.Ляхоўскі (151,75), М.Крышталь (117,425), Г.Далідовіч з Мінска (113,0) і П.Шклудаў (101,25).

## Праверце рашэнні

**"Для лепшага засваення"** (М.Грушэўскі): **№1** – e3 (f4:b4 – правіла збівання большай колькасці фігур) d6, a3, a7x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

МАЗАІКА

# Нагрэблі медалёў

*Восем медалёў заваявалі беларусы на чэмпіянаце Еўропы па веславанні на байдарках і каноэ, якія праходзіў 1–3 мая ў Чэхіі.*

У скарбонцы беларускай каманды – тры залатыя, тры сярэбраныя і два бронзавыя медалі. Чэмпіёнамі Еўропы на дыстанцыі 500 метраў сталі беларуская каноэ-двойка ў складзе **Камілы Бобр і Дарыны Касцючэнка,** байдарка-чацвёрка (**Маргарыта Махнева, Аляксандра Грышына, Вольга Худзенка, Марына Літвінчук**) і **Маргарыта Махнева і Марына Літвінчук** на дыстанцыі 200 метраў у гонцы байдарак-двоек.

Сярэбраныя медалі заваявалі дуэт байдарачнікаў **Віталь Бялько/Раман Петрушэнка** на дыстанцыі 1000 метраў, канаіст **Аляксандр Козыр** на дыстанцыі 200 метраў і пара **Дзмітрый Рабчанка/Аляксандр Валчэцкі** (каноэ, 200 метраў).

Бронзу на дыстанцыі 500 метраў заваявала беларуская каноэ-двойка ў складзе **Глеба Саладухі і Дзяніса Маклая** і дуэт-байдарачнікаў **Віталь Бялько/Раман Петрушэнка**.

# Азаранка пачала з перамогі

*Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка (31-е месца ў рэйтынгу) выйшла ў другі круг турніру ў Мадрыдзе з прызавым фондам 4.185.405 доляраў ЗША.*

У 1/32 фіналу яна выйграла ў амерыканкі Венус Уільямс (16) – 6:3, 7:5 і зараз сустрэнецца з харваткай Айлай Тамлянавіч (61).

Лік асабістых сустрэч з Уільямс стаў 2:4 (абедзве перамогі Азаранка атрымала ў гэтым сезоне), з Тамлянавіч паядынак будзе першым.

# Спатыкнуліся на Даніі

*Другое паражэнне ад каманды Даніі зведала мужчынская зборная Беларусі па гандболе ў адборачным турніры чэмпіянату Еўропы 2016 года.*

2 мая ў Орхусе каманда Юрыя Шаўцова саступіла скандынавам з лікам 23:32 (11:18). 30 красавіка ў Мінску Беларусь прайграла Даніі – 27:36.

Становішча каманд у групе 2: Данія – 8 ачкоў (4 гульні), Боснія і Герцагавіна – 3 (3), Беларусь – 3 (4), Літва – 0 (3).

Наступны матч Беларусь правядзе 11 чэрвеня ў гасцях супраць Босніі і Герцагавіны.

У фінальную частку ЧЕ-2016 выходзяць дзве лепшыя каманды кожнай з сямі адборачных груп, а таксама лепшая трэцяя зборная.

ТРАГЕДИЯ

# Выбросил... жену

В Гомеле в минувшие выходные семейный инцидент закончился жуткой смертью молодой жены.

Представители правоохранительных органов рассказали, что между 20-летними супругами произошла ссора. В результате молодой муж просто вытолкнул свою жену из окна квартиры. А квартира расположена на пятом этаже.

Спустя несколько минут девушка была обнаружена случайными прохожими. Они и вызвали «скорую помощь», однако медики помочь потерпевшей не смогли. От полученных травм девушка скончалась буквально через десять минут после падения.

Правоохранители установили, что подозреваемый в убийстве мужчина работал поваром, ранее был судим.

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15034

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

 **Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 4.05.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №1873.**